# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

№ 2-3 СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ 1937 г. ГОД II





Максім Танк

# Да чытачоў.

Кожны з Вас разумее патрэбу беларускага друкаванага слова. Многія пішуць да нас, каб ім высылалі „Б. Л" часова бяз грошаў, што плате будзе ўрэгулявана. Аднак да гэтага часу ня ўсе выпаўнілі свой грамадзянскі абявязак. Некаторыя з Вас маюць за сабою залегласьці. Каб забяспечыць журналу сталы і рэгулярны выхад, трэба ня толькі ліквідаваць свае даўгі, але яшчэ заахвоціць новых падпішчыкаў. Гэты нумар — павялічаны — выдаем за студзень і люты адразу. Наступны чацьверты нумар мусіць выйсьці ў сакавіку. Прысылайце карэспандэнцыі з жыцьця вёскі і мястэчка, фатаграфіі, творы. Усё цікавае будзе выкарыстана.

Зьбірайце складкі, прысылайце ахвяры, бо журнал — гэта наша адзіная культурна-грамадзкая трыбуна і арганізацыя.

---

## ЗЬМЕСТ:



---


СКЛАДКІ:
3 зл. 60 гр. на год
1 зл. 80 гр. на паўгода
асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Каралеўская вуліца 3-[illegible].
Конто: rozrachunek 91.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

**№ 2-3 Студзень-Люты 1937 Год II**

## Наша культура калісь і цяпер.

*(Да абходу „Дня Беларускай Культуры“ 13.XII.1936 г.).*

...наш Дух,
Даючы рух,
Жыцьцё,
Праз крыўду, зьдзекі
І забыцьцё,
Спрадвеку,
З гадоў старых
Быў захаваны.

І вось — нязнаны —
Сягнуў тварыць.
І з першых дзён
Змог сну палон
І ночы глуш,
Мужычых душ
Зьявіў красу
І бель.

*Ул. Жылка.*

У нашай мове існуюць два словы, зьмест і значэньне каторых людзі часта блутаюць. Гэта ёсьць: **культура** і **цывілізацыя**. Ведама, у паняцьцях, якія яны выражаюць, ёсьць і супольнае: абодва яны гавораць нам аб творчасьці чалавечае мысьлі. Але пад той час, як **культура** абыймае перад усім праявы нашага духовага жыцьця, пад **цывілізацыяй** мы разумеем праявы творчасьці выключна **матэрыяльнае, ужытковае**. Возьмем гэтакі прыклад. Тры тысячы гадоў таму назад народ індускі меў высокую духовую культуру, і ягоная філёзофія, ягоная маральная сыстэма па сягоньняшні дзень велічча сваей захапляе дасьледчыкаў сьветапагляду і маральнае навукі індусаў Але індуская цывілізацыя, раўнуючы да нашае, лічыцца адсталай: індусы ня мелі ані электрычных лямпачак, ані паравых машын, ані трактараў. Наадварот, шмат у якіх народаў Афрыкі ці Азіі можам сустрэціць ужо найнавейшае сыстэмы кулямёты і іншыя вытвары сучаснае цывілізацыі, хаця культура іх стаіць на першапачатнай ступені і ня толькі з культурай перадавых народаў сучаснага нам сьвету, але і з культурай індусаў спрад трох тысячаў гадоў раўнавацца ня можа. Наагул, **культурнасьць** народу характарызуецца **духовым багацьцем** яго, **цывілізаванасьць — багацьцем матэрыяльных дасягненьняў**

Гаворачы тут аб беларускай культуры мы і будзем увесь час мець наўвеце **першае** з гэтых двух блізкіх да сябе, але не пакрываючыхся ўзаемна паняцьцяў. Мы будзем гаварыць аб тых праявах духовае творчасьці беларускага народу, якія ў далёкай мінуўшчыне вызначылі яму пачэснае мейсца ў жыцьці Вялікага Князьства Літоўскага і забясьпечылі на цэлыя стагодзьдзі магутны ўплыў на суседнія народы, а цяпер — пасьля векавога заняпаду — увялі наш народ ізноў у сям'ю культурных народаў сьвету.

* * *

Ужо ў дагістарычным пэрыядзе дасьледчыкі яго адзначаюць праявы існаваньня зачаткаў духовае культуры ў тых пляменьняў, з якіх зләжыўся беларускі народ. Ужо тады ў іх існавала, хоць прымітыўнае, грамадзкае жыцьцё, асноўнай адзінкай якога быў **род**, — існаваў і стройны сьветапагляд, які багатварыў сілы прыроды і ўвасабляў іх у жывых істотах, падобных да чалавека. Ужо тады яны выяўлялі імкненьне да красы, аздабляючы асаблівым арнамантам свае гаршчочкі, свае гаспадарскія прылады і зброю; ужо тады стараліся прыхарошыць сваё цела персьценямі, бранзалетамі, пацеркамі, засьцёжкамі і да таго падобнымі аздобамі. З далёкіх часта краін даставалі яны гэтыя аздобы, плацячы за іх вытварамі сваей працы, і на ўзор іх самі падобныя-ж рэчы выраблялі. Вось гэтыя матэрыяльныя памяткі жыцьця нашых найдаўнейшых продкаў, паказваючы ступень, на якой стаяла іх цывілізацыя, адначасна сваімі формамі і аздобамі гавораць аб духовай культуры тых, хто іх вытварыў: іншых спосабаў запісываць і пераказываць патомным пакаленьням свае духовыя імкненьні і патрэбы продкі нашыя тады яшчэ ня мелі.

Больш ведама нам аб культурным стане беларускіх пляменьняў у наступным пэрыядзе, калі яны зарганізаваліся ўжо ў удзельныя князьствы. Першым знакам узросту іхняе культуры і была ў першы чарод гэтая самая новая грамадзка-дзяржаўная арганізацыя іх. Тагачасны князь панаваў, як свайго роду канстытуцыйны манарх: яго ўлада абмежывалася народным вечам, якое неаднойчы нялюбых князёў пазбаўляла ўлады і на іхні пасад заклікала іншых. Гэткая арганізацыя ў мамэнт прыняцьця беларусамі хрысьціянства існавала ўжо на ўсіх беларускіх землях. Беларусы мелі багатыя гарады, як Полацак, Віцебск, Смаленск і шмат іншых, вялі таргоўлю ня толькі з найбліжэйшымі суседзямі, але й вандравалі далёка на ўсход і на захад. З прыходам хрысьціянства пачалі разьвівацца новыя віды мастацтва: будаваньне храмаў, прыаздобліваньне іх сьценнымі малюнкамі і іконамі. Навука пісьма, прынесеная разам з хрысьціянствам, прычынілася да разьвіцьця творчасьці ў слове пісаным, і гэтым шляхам захаваліся да нашых дзён жывыя сьведкі тагачаснага жыцьця — летапісы, захаваліся і ўзоры паэзіі і красамоўства XI—XII стагодзьдзяў. Ведама, што з узростам агульнага роўня культуры ўсё больш і больш разьвіваецца далей мастацтва дэкарацыйнае, памяткі якога бачым у ўсялякіх аздобах, на старадаўных рукапісных кнігах — эвангельлях і іншых, пачынаючы ад XI стагодзьдзя (прыкладам знамянітае „Тураўскае Эвангельле“), на рэчах штодзеннага ўжытку, на зброі і г. д.

Высокі культурны ровень беларускіх удзельных князьстваў XI—XIII стагодзьдзяў вызначыў беларусам асаблівую ролю ў тэй новай дзяржаве, якая ўтварылася з беларускіх і літоўскіх зямель на пераломе XIII і XIV стагодзьдзяў і пасьля, дзякуючы сваей культурнасьці і сіле, займала першае мейсца на ўсходзе Эўропы. Дзяржава гэтая, зачатак якое зроблены быў невялічкім і ў гэныя часы малакультурным літоўскім народам, назоў свой узяла ад літвіноў і называлася Вялікім Князьствам Літоўскім. Але літвіны складалі ў ёй толькі пятую частку насяленьня і вельмі хутка перанялі беларускую культуру і беларускае пісьменства. Вялікае Князьства Літоўскае было „літоўскім“ толькі на ймя. Уся дзяржаўная арганізацыя тут прадстаўляла

далейшае разьвіцьцё беларускае дзяржаўнае арганізацыі ўдзельных князьстваў; правадаўства „Літвы“ цалком увабрала ў сябе праўныя нормы гэных-жа князьстваў, замацаваныя ў актах вялікіх князёў, каторыя ўрачыста абязываліся шанаваць „старыну“ у далучаўшыхся да новае дзяржавы беларускіх князьствах. З гэтага беларускага правадаўства княжых часоў і з таго „звычаёвага“ права, якое ў працягу вякоў вытварыў для сябе наш народ, вырасьлі ў XV і XVI стагодзьдзях слаўныя на ўвесь сьвет зборнікі законаў Вялікага Княства Літоўскага, ведамыя пад назовам „статутаў“, пісаныя і пазьней друкаваныя ў беларускай мове. Тагачасная беларуская юрыдычная тэрміналёгія была хутка прысвоена і палякамі, калі статуты былі перакладзены з беларускае мовы на польскую. Законы „Літвы“ забясьпечывалі беларускай мове, як мове дзяржаўнай, панаваньне ўва ўсім гаспадарстве. Гэтая-ж мова была мовай штодзеннага ўжытку вялікіх князёў, княжага двара, адміністрацыйных уладаў і ня толькі беларускага, але й усяго літоўскага культурнага грамадзянства. Нават асеўшыя на беларускіх землях татары — і тыя пераняли гэту мову і беларускія народныя звычаі ды захавалі іх па сягоньняшні дзень. Аб гэтым сьведчаць, паміж іншым, татарскія духоўныя кнігі XV і XVI стагодзьдзяў, пісаныя ўжо пабеларуску, толькі літарамі арабскімі.

У „літоўскім“ пэрыядзе, калі беларусы былі запраўды-ж галоўным дзяржаўна і культурна-творчым элемэнтам краю, бачым поўны расцьвет усіх відаў беларускае духовае культуры. Буйна расцьвітае беларуская грамадзка-палітычная і філёзофска-рэлігійная думка, адгукаючыся на ўсе новыя кірункі мысьлі Захаду, на „рэлігійныя навіны“, якія стуль да нас прыходзілі. Пісьменства, архітэктура, малярства—усе гэтыя галіны культурнае творчасьці пакінулі нам найбольш памятак іменна з гэных часоў.

Аб багацьці беларускага пісьменства гэнае пары ведама ўсім, хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй беларускае літаратуры. Патрэба кніжкі ў шырокіх слаёх грамадзянства выклікала закладзіны ў Вільні першае беларускае друкарні — першае наагул для ўсяго Усходу Эўропы, бо-ж ад нас друкарства пайшло і ў Маскоўшчыну, і на Украіну. Менш ведама грамадзянству—і нашаму, і чужому—творчасьць беларусаў у такіх галінах мастацтва, як архітэктура і малярства. Драўлянае будаўніцтва на нашых землях, дзе гэтулькі лясоў, разьвівалася ў-ва ўсе пэрыяды нашае гісторыі і вытварыла свой асаблівы стыль, захаваны па сягоньняшні дзень. Але і муры беларусы пачалі стаўляць рана — не пазьней XII стагодзьдзя. З гэнага часу ўзьнімаюцца на Беларусі монумэнтальныя гмахі сьвятынь і замкаў. Ведама, узоры будаўніцтва прыходзяць да нас, як і да другіх славянскіх народаў, або з Бізантыі, або — пазьней — з заходніх краін Эўропы. Але ці гэта будуць цэрквы ў бізантыйскім стылю, ці замкі й касьцёлы готыцкія, рэнэсансавыя, ці ўрэшце барокавыя будоўлі, — заўсёды стыль іх адменны ад чужых узораў, заўсёды на іх відаць творчы геній беларускага народу, які паводле ўласнага густу перапрацоўваў выраслыя на чужым груньце стылі, датарноўваў іх да варункаў і патрэб свайго жыцьця. Вось чаму бізантыйскія цэрквы на Беларусі гэткія непадобныя да цэркваў кіеўскіх, наўгародзкіх, маскоўскіх, а беларуская готыка замкаў і касьцёлаў (так сама, як і пазьнейшы стыль барокко) так рэзка адрозьніваецца ад гэткага-ж стылю будоўляў Польшчы. — Ня менш індывідуальных рысаў мае старое

беларускае малярства. Хоць і яно пачаткова ўзіралася на малярства бізантыйскае, але-ж на землях беларускіх, якія падтрымлівалі культурныя сувязі так-жа і з Захадам, здаўна выяўляліся і заходнія культурныя і мастацкія ўплывы. Наш слаўны перакладчык Бібліі і пачынальнік друкарства на Беларусі, доктар Францішк Скарына, быў не адзіным сярод беларусаў, якія ці то па навуку, ці ў гандлёвых справах адведывалі землі нямецкія, чэскія, італьянскія. Калі ў Італіі — у XV стагодзьдзі — пачынаецца вялікае адраджэньне культуры ўва ўсіх яе відах, дык уплыў магутна расцьвіўшага італьянскага малярства даходзіць і на Беларусь, і тут вытвараецца асаблівая малярская школа, якая злучае элемэнты бізантыйскага і італьянскага малярства ў новы, арыгінальны нацыянальна-беларускі стыль. Як высака стаяла беларускае малярства ўжо за часоў Ягелёнаў, паказвае факт, што беларускія мастакі ехалі маляваць фрэскі на сьценах касьцёлаў у Польшчы — у Кракаў, Люблін, Сандомір і іншыя польскія месты.

У тварэньні нашага старога пісьменства прыймалі ўчасьце толькі гэтак-званыя „вышэйшыя“ станы: магнаты, шляхта (баярства), мяшчанства, духавенства. Сялянскія масы былі ў гэныя часы йшчэ няпісьменныя і ня толькі ня прыймалі ўчасьця ў тварэньні агульна-нацыянальнае літаратуры, але й карыстацца ёю ня мелі магчымасьці. „Нізы“ народныя жылі сваім асобным жыцьцём, тварылі ў жывым слове для сябе сваю вусную поэзію. Але ў іншых галінах мастацкае творчасьці, якімі карысталіся ўсе беларусы бяз розьніцы станаў, гэткага падзелу між „вярхамі“ і „нізамі“ ня было: малярства, рэзьба, драўлянае будаўніцтва, ткальныя ўзоры — усё гэта мела характар агульна-нацыянальны, бо і „вярхі“ і „нізы“ мелі ў сваей псыхіцы супольныя нацыянальныя рысы. Дык калі — к канцу XVII стагодзьдзя — „вярхі“ утрацілі сваю галоўную вонкавую нацыянальную адзнаку: мову беларускую, — яны ўсё-ж не маглі зьмяніць сваей псыхікі, якая і сягоньня рэзка адрозьніваецца ў паляка з этнаграфічнае Польшчы і ў нашчадка спольшчанага прад вякамі беларуса. Гэтым шляхам у польскую культуру ўваходзілі і ўваходзяць элемэнты беларускае нацыянальнае душы (прыкладам: у музыцы — Ст. Манюшка, у поэзіі — Адам Міцкевіч і шмат іншых), — гэтак сама, як праз вонкава абмаскоўленых беларускіх інтэлігентаў, яны ўвайшлі і ў культуру расейскую (Глінка, Дастаеўскі і г. д.).

„Нізавая“ народная творчасьць ніколі ня спынялася. Нязвычайна высокага разьвіцьця дасягнулі дзьве галіны гэтае творчасьці: вусная народная поэзія і — музыка, якая тварылася ці то ў сувязі з поэзіяй, як песьня, ці самастойна — як танец; але і другія віды народнае мастацкае творчасьці выяўляліся побач болей ці меней ярка: аздобніцтва — у тканінах народных, у малюнках на вялікадных яечках, на будоўлях вясковых; разьба з дрэва, асаблівы стыль у драўляным будаўніцтве — драўляных цэрквах, каплічках, хатах, сьвірнах; урэшце — даволі прымітыўнае малярства. А ўсё гэта разам давала яркі доказ багацьця беларускае народнае душы і тых творчых магчымасьцяў, якія ёсьць першай адзнакай культурнасьці народу.

Калі „вярхі“ адцураліся ад роднае мовы беларускае і йшчэ далей адыйшліся ад беларускіх „нізоў“, ад якіх і раней стаялі воддаль, дык яшчэ менш, чым раней, цікавіліся жыцьцём некалі свайго роднага, а цяпер — чужога для іх народу беларускага. Але вось — у канцы XVIII стагодзьдзя — заходнія вятры прыносяць на нашу зям-

лю новыя думкі-ідэі аб волі, аб роўнасьці і брацтве між людзьмі ўсіх станаў, аб правох чалавека і грамадзяніна. Лепшыя з нашых краёвых інтэлігентаў, утраціўшых ужо даўно сувязь з беларускімі „нізамі", раптам пачалі цікавіцца жыцьцём беларускага сялянства — ня толькі матэрыяльным, але і духовым, — цікавіцца творчасьцяй народнай. Дзеля таго, каб пазнаёміцца з гэтай творчасьцяй, каб пазнаць душу беларускага сялянства, трэба было ісьці да „нізоў" і там выкрываць тое, што да „вярхоў" звычайна не даходзіла. Ня лёгкая была гэтая задача: народ ня верыў паном, крыўся ад іх з сваімі думкамі, сваімі песьнямі, сваімі настроямі, што так рознабочна адбіваюцца ў народным мастацтве. Але той, каму ўдавалася пераламаць лёд варожасьці ў народзе, шырака расчыняў вочы ад зьдзіўленьня, бачучы хараство і багацьце творчасьці нашага народу. Гэтак было з Зорыянам Долэнгай Ходакоўскім, які ў пачатку XIX стагодзьдзя вандраваў пехатой па беларускіх вёсках і запісываў беларускія звычаі, абрады, песьні, казкі, легенды. Так сама нязвычайна захапляўся беларускай народнай творчасьцяй і высака ставіў яе Аляксандар Рыпінскі, учасьнік паўстаньня 1831 году, які выэміграваў у Францыю і, жывучы ў Парыжы, чытаў тамака лекцыі аб беларусах ды пасьля выдаў іх у асобнай кніжцы. Рыпінскі, які лічыў сваім ідэалам прышчапленьне беларускаму сялянству польшчыны, у гэнай кніжцы апавядае, што меў сшыток з беларускімі народнымі песьнямі, з якім ніколі не разлучаўся, як з найдаражэйшым скарбам... Захапляўся хараством беларускае песьні і Ян Чачот, які ня толькі зьбіраў і друкаваў у арыгіналах беларускія песьні, але й перакладаў іх на польскую мову, каб гэтымі скарбамі беларускае поэзіі абдараць тых, хто беларускае мовы ня ведаў... А ў другой палавіне XIX веку зьбіраюць і друкуюць беларускія народныя творы і Насовіч, і Дабравольскі, і Шэйн, і Зінаіда Радчэнко, і Раманаў, і Фэдэроўскі, а на пачатку XX ст. — Сербаў і цэлы рад іншых дасьледчыкаў, якія выпускаюць у сьвет **дзесяткі тома**ў беларускіх казак, песьняў, прыказак, загадак, а такжа апісаньняў народных звычаяў, абрадаў, вераваньняў.

Гэтак выглядае **колькасна** творчасьць беларускіх „нізоў", аб **якаснасьці** гаварыць тут цяпер ня будзем: каб ацаніць яе належна, трэба пазнаць гэну творчасьць беспасрэдна. Мімаходам толькі ўспомнім імя вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, які — разам з цэлай плеядай іншых паэтаў гэтак-званае беларускае школы — запазычыў многа тэмаў і абразоў з скарбаў нашае народнае творчасьці, — а так сама імёны гэткіх выдатных польскіх і расейскіх кампазытараў, як Манюшка, Карловіч, Рагоўскі, Глінка і іншыя, што тварылі (а іншыя і цяпер твораць) запраўдныя музыкальныя пэрлы, карыстаючыся беларускімі народнымі матывамі.

А хто ня ведае нашых нязвычайна прыгожых народных тканін— з іх багатымі ўзорамі, што пераходзілі ад маткі да дочкі, з пакаленьня ў пакаленьне ад найдаўнейшых часоў, усьцяж дасканалячыся, усьцяж багацеючы? Калёры іх заўсёды дабраны з вялікім пачуцьцём красы, матывы ўзораў ня маюць канца. Не дарма на Міжнароднай Выстаўцы Орнамэнтацыйнага Мастацтва ў Парыжу, адбытай у 1925 г., беларускія гунькі з Лідчыны сваім арыгінальным хараством выклікалі шчырае захапленьне ў зьехаўшаеся з усіх канцоў сьвету публікі і былі нагароджаны залатым мэдалем. Ткала-ж іх — рука няпісьменнае, нідзе ня вучанае беларускае сялянкі!...

Некаторыя нашыя суседзі ўсьцяж паўтараюць стары пагляд на беларусаў, як на народ цёмны, адсталы, някультуральны. Дык як-жа пагадзіць гэта з тымі праявамі духовае культуры нашага народу, аб якой так красамоўна сьведчыць духовая творчасьць яго?

Праўда: **цывілізацыйна** беларус шмат адстаў ад другіх народаў, але не **культурна**, бо ягоная багатая духовая культура існавала і існуе цяпер, толькі раней не выбівалася праз саламяныя стрэхі вясковых хат на шырокі сьвет. Чаму? Бо народ наш ня меў сваей нацыянальнай інтэлігенцыі, якая бы скарбы душы яго апрацоўвала і паказвала сьвету. Бо вёска гібела ў голадзе й холадзе, у цемры і брудзе; бо вялізарныя дасягненьні сучаснае цывілізацыі да яе не даходзілі. Прыпомнім, што йшчэ 75 гадоў таму назад беларускі селянін быў „уласнасьцяй“ свайго „пана“ — абшарніка, як скаціна рабочая! Сьвятло навукі не даходзіла да яго, школа для яго не існавала: ні „пан“, ні чужацкая дзяржаўная ўлада аб гэта не клапаціліся А калі сьвятлейшыя адзінкі рабілі нейкія пачынаньні, каб даць асьвету вёсцы, дык іх стараньні пераважна разьбіваліся аб варожасьць і „паноў“ і ўладаў, як гэта ўжо ў першай палавіне XIX ст. сталася з ведамай школай дэмакрата, ксяндза Магнушэўскага ў Крошыне, зачыненай уладамі на падставе даносу абшарніка... Толькі пасьля скасаваньня прыгону ў 1861 годзе для беларускага селяніна адкрыўся ўрэшце доступ у школу, адкрылася наагул дарога з вёскі ў культурныя цэнтры—ў месты. Але першае пакаленьне інтэлігентаў, што выйшлі з вёскі, расьцярушылася й утанула ў чужой нацыянальнай стыхіі, бо свайго нацыянальнага асяродзьдзя там на „вярхох“ — яно не знайшло. Толькі другое пакаленьне — ужо ў пачатку XX стагодзьдзя — прыступае да творчае працы дзеля разьвіцьця беларускае нацыянальнае культуры. Толькі ў выніку здабычаў расейскае рэвалюцыі 1905 году беларусы атрымалі ўрэшце магчымасьць мець сваю прэсу ў роднай мове, выдаваць без перашкодаў беларускія кніжкі, ужываць родную мову ў публічных выступленьнях. Толькі з гэнага часу паўстала магчымасьць тварыць беларускія культурна-асьветныя арганізацыі, у якіх сьведамая нацыянальна беларуская інтэлігенцыя пачала гуртавацца і злучаць свае сілы дзеля творчае працы.

Прыпомнім: гэта было ўсяго толькі **трыццаць гадоў таму назад!** На працягу сьведамага жыцьця **аднаго** толькі пакаленьня беларускія народныя масы, збуджаныя нацыянальна, праз сваіх інтэлігентных сыноў мелі магчымасьць узнавіць шырокую творчую культурную працу, якую прад вякамі вялі, адпаўшыя пазьней ад свайго народу, „вярхі“.

(Даканчэньне будзе).

---

С. ХМАРА.

# Нам не чакаць вясны!

Нам не чакаць вясны
з замкнутымі вачамі,
ня сьніць аб ёй начамі,
Бо' сны і будуць сны.

Нам не чакаць вясны,
галодным і разутым,
і з песьнямі пакуты
Застануцца ледзь сны.

Мы выкуць мусім дні —
сэрц нашых жар-вуглямі—
ня мроямі!... рукамі! —
Дні нашае вясны.

# Дзень Беларускай Культуры.

## АКАДЭМІЯ.

У нядзелю 13 сьнежня мінулага 1936 году беларускае грамадзянства ў Вільні ўрачыста сьвяткавала Дзень Беларускай Культуры.

За сталом прэзыдыума ў салі Літоўскай Гімназіі Вітаўта Вялікага а гадзіне 18-ай у вечары засядае Камітэт сьвяткаваньня ў складзе: С. Паўловіч, кс. А. Станкевіч, М. Машара, М. Танк, Р. Шырма, інж: Клімовіч, П. Сергіевіч, Я. Пазьняк, Я. Шутовіч і М. Канцэлярчык.

Інж. А. Клімовіч, як адказная асоба за сьвяткаваньне, адчыняе акадэмію і ўступное слова з нагоды сьвята перадае кс. А. Станкевічу. Прамоўца ў кароткім слове адзначае, што культура, знаходзячы сваё дастасаваньне да жыцьця чалавечага павінна рабіць гэтае жыцьцё радасным, каб яно мела свой сэнс і каб было дастойным чалавека. Культурнае творства сяньняшняга чалавека адбываецца ў двух кірунках двух праблемаў — нацыянальнай і сацыяльнай. Вызваленьне прыгнечаных нацыяў і сацыяльных клясаў — гэта галоўныя мэты сучаснага грамадзянства. Дзеля таго ў гэткім кірунку і адбываецца творства сяньняшняга чалавека. Старыя культуры уміраюць, новыя родзяцца, Старыя уміраюць, але не цалком. Уміраe тое, што было патрэбай часу, вартасьці-ж агульна-людзкія, вечныя астаюцца назаўсёды Усякая новая культура з аднаго боку карыстаецца з культуры старой, з другога прыносіць новыя вартасьці, якімі узбагачае скарбы агульна-людзкай культуры. І сяньняшняя культура, якая творыцца пад знакам нацыянальнай і сацыяльнай культуры, зьяўляецца гэтай новай вартасьцяй для ўсяго чалавецтва.

Беларускі творчы дух мае ўжо свае культурныя здабычы, мае ўжо чым пахваліцца, мае з чым паказацца ў людзі. „Дзень Беларускай Культуры“ — гэта сапраўды сьвята беларускага творчага духа, гэта дзень сынтэзы беларускай культуры.

Значэньне гэткага дня, гэткага сьвята аграмаднае. Прадусім з пункту гледжаньня практычнага. Культура, звычайна, складаецца з працы розных асоб, розных установу, каторыя працавалі пэўныя пэрыяды часу, а каторых юбілеі адзначыць паасобку дзеля іх многасьці няма магчымасьці. Ацэніваць іх і сьвяткаваць трэба разам, супольна. І так, напрыклад, сёлета ў нас мінулі 15-я угодкі ТБШ, 10-я Бел. Ін-ту Гасп. і К-ры, 15-я Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча, 20-ыя сьмерці паэткі і дзеячкі адраджэньня Цёткі, 10-я сьмерці паэта К. Сваяка, хутка ўрэшце наступяць 15-я ўгодкі сьмерці пісьменьнікаародніка Левіцкага (Ядвігін Ш.). Каронай жа гэтых усіх сёлетніх беларускіх юбілеяў зьяўляецца 30-лецьце літаратурнай творчасьці нашага вялікага народнага паэта Якуба Коласа. Вось-жа Дзень Беларускай Культуры, які сяньня сьвяткуем, мае сваей мэтай адзначыць ня толькі здабычы беларускай культуры агулам, але так-жа і гэтыя ўсе ўспомненыя сёлетнія юбілеі, якія так выдатна да ўзросту і пашырэньня гэтай культуры прычыніліся.

З беларускіх народных крыніц, у вялікай меры з народнай песьні, творыцца сучасная беларуская культура. Вось-жа й ня дзіва,

што гэты „Дзень Беларускай Культуры“ сьвяткуем тэйжа народнай песьняй.

На заканчэньне прамоўца зазначыў, што такое сьвяткаваньне мае аб'еднаўчае і зблiжаючае значэньне для народаў нашага краю, якія належна пазнаўшы ўзаемна свае культурныя здабычы, супольна павінны ісьці да супольных культурных мэтаў.

Трэба адзначыць, што сваё ўступнае слова кс. Ад. Станкевіч сказаў з пачуцьцём, шчыра, ад сэрца. Гэта быў першы акорд перажываньняў. Быў наданы правільны тон для афіцыяльнай часткі Акадэміі. У гэтым сэрдэчным тоне сказаў прывітальную прамову прадстаўнік Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі пасол Траян, які адзначае вартасьць беларускае культуры для Украінскага Народу і агульна-людзкай справы.

Прадстаўнік літоўскага грамадзянства дырэктар Шыкшніс, вітаючы беларусаў, падкрэсьліў факт супольнай культуры беларусаў і літоўцаў у мінуўшчыне.

У канцы акадэміі інж. А. Клімовіч падаў прывітальныя тэлеграмы і пісьмы ад беларускіх студэнтаў з Парыжа, Бэрліну, Прагі, Рыгі і Коўна і ад беларускіх дзеячоў на правінцыі.

Гэтым была закончана афіцыяльная часта сьвяткгваньня, пасьля чаго распачалося канцэртнае выступленьне хору пад кіраўніцтвам Р. Шырмы і саліста опэры тэнара М Забэйды-Суміцкага.

## КАНЦЭРТ.

Беларускі хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы распачынае канцэрт кантатаю К. Галкоўскага на словы М. Танка.

То ня вецер крыльлем звонкім
Разшумеўся да зары,
То ня верас, не сасонкі
Зашапталі у бары, —
Гэта песьня расцьвітае
Ў моры сініх васількоў,
Пераліўна выплывае
Ў пазалоце каласоў.

Песьня сама апавядае сваю гісторыю. Урачыста грыміць і нарастае сіла акордаў.

Дзе шлях сіні сьцелюць гусі,
Дзе шапоча лісьце дрэў, —
Над прасторам Беларусі
Песьні рвецца ўдаль напеў.

І далей віхурай налятаюць, рассыпаюцца і зноў сходзяцца галасы:

Эх, дарогі нашай долі!
Зарасьлі вы палыном,
Ды заслалі сьцежкі ў полі
Ветры сінім туманом!

А там, за гэтымі туманамі, чуецца даль родных прастораў — поля, лесу, азёр, сны курганаў, „казкі соснаў і бяроз“ і многа задору маладога.

І ў далёкі сіні вырай
Мы да сонца ўдаль пайдзём.
Размахнуцца звонка, шырай
Крыльля песьняў—буралом.

Пасьля кантаты ідуць песьні народныя: Вось дзяўчына вылівае скаргу, што быстра рэчанька ўнясла мілага („А мне трудненька“ — К. Галкоўскага), далей радасьць маладога спатканьня ў гаі („Зялён гай“ — А. Грэчанінава), а вось хлапец просіць напаіць каня крынічнаю вадою („А ў полі вярба“ — А. Сьвешнікава), то зноў дзяўчына размаўляе з ветрыкам, хоча даведацца, чаму міленькі ня прыехаў („Па саду хаджу“ — К. Галкоўскага) і нарэшце жартаўлівая вясельная песьня, як кувала зязюлька, што лес мал, а Марылька плакала, што муж мал („Кукава зязюлька“ — А. Грэчанінава). Першая частка канцэртнае праграмы была закончана песьняй „Вясна“, муз. К. Галкоўскага да тэксту паэта Васілька.

Другую частку праграмы распачынае хор песьняй М. Анцава „Ўсе разам“ да слоў Янкі Купалы. Звонкі бадзёры марш-песьня напаўняе салю:

Гэй-жа, братцы, ўсе мы разам
Песьню запяём!
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

Даляціць мо' песьня наша
Да забытых сёл,
Дзе яе сусед пакліча,
Павядзе за стол.

Хлебам-сольлю прывітае,
Чарку паднясе...
Будзе песьня красавацца,
Як жытцо ў красе.

Нам тады ўсім будзе слава,
Ня было якой!...
Дык запейма, хай імчыцца
Нашых песень рой!

Ўзапраўды роем, адна за другой імчацца нашы прыгожыя песьні. „Ой гыля, гыля гусі вадою“, — простая, ясная, тонкая музычная апрацоўка А. Грэчанінава, поўная мягкай лірычнай поэзіі, выплывае на зьмену і папяраджае сабою цудоўную сюіту слаўнага кампазытара К. Галкоўскага — „Каханьне“ — гэты монумэнтальны твор ў нашай музычнай літаратуры. Колькі там багатых модуляцый, перажываньняў, настрояў, музычных абразоў. Усе прысутныя былі захоплены і зьдзіўлены гэтым багацьцем беларускай музычна-харавой літаратуры. Свае выступленьне хор закончыў сюітай „Каханьне“ (Складаецца з 10 народных мэлёдый).

Апошняй, трэцяй часткай канцэрту было выступленьне саліста міланскай і пазнанскай опэры М. Забэйды-Суміцкага. Чатыры народныя беларускія песьні (А. Грэчанінава) у выкананьні артыста зачаравалі ўсіх прысутных Такога энтузыязму даўно ня бачыла саля гімназіі Вітаўта Вялікага. Вось што запісаў на другі дзень пасьля канцэрту наш паэт Максім Танк пад уражаньнем гэтага сьпеву.

„Заўсёды народная песьня пакідае глыбокае ўражаньне.

Яшчэ будучы малым я няраз прыслухоўваўся, як пяялі жнеі: доўга, працяжна, быццам нашы нізінныя рэкі звонючы нізка зьвісаючай лазой, алешнікам, чаротам, калышучы срабрыстыя розсыпі сонца, пераліваючыся цёплымі пэрламі летніх зораў, плылі, шырака разьліваючыся вясеньнім разьлівам, парываючы сваей бязмернай глыбінёй пачуцьця.

І ня ведаю, чаму пачуўшы народную песьню, ня толькі заслухоўваюся, але мне хочацца глянуць вачыма ў яе.

Шмат я чуў, як пяялі народныя песьні.

Ледзь не заўсёды яны неяк іначай гучэлі як там, каля сваіх крыштальных вытокаў.

У выкананьні адных яны гублялі сваю прастату; другія — пелі іх чужымі вуснамі і здавалася, што за голасам недзе яшчэ б'ецца незразумелае, дзіўнае сэрца гэтых песьняў, якое ці і патрапіць хто адчуць.

Зусім іначай пяяў М. Забэйда-Суміцкі.

З першых слоў ён нябачанымі пальцамі адчуваньня узяў гэта сэрца песьні, палажыў яго на асьцярожныя далоні дзіўнага голасу і, абвеяўшы чарам, задумай, панёс яго здаецца на разстайныя дарогі, між саламяных стрэх, між каласоў затопленых у сонцы, раскалыханых ветрам.

І ці-ж можна было не адчуць і не пайсьці за песьняром?!

Саля доўга кацілася да эстрады хваляй воплескаў, адступала, каб зноў вярнуцца, гатовая змыць сваім кіпучым вірам і эстраду і песьняра.

Змоўклі. Пасьля ўсяго, мне здалося ў кожнага чагось не хапала, без чаго перш людзі стараліся жыць спакойна, быццам не заўважваючы, і нехта ім прыпомніў, што так ня можна жыць далей, як жылі... Часамі песьні так патрапяць сказаць!..."

Пасьля народных песень артыст выканаў чатыры рамансы: тры на словы Я. Купалы — „Ты прыйдзі“ — муз. Чуркіна, „Лета“ — муз Аладава і „Абнімі ты мяне“ — муз. К. Галкоўскага і адзін на словы Ясакара „Ці грэх цябе любіць“—таксама муз. К. Галкоўскага. Калі ў першых песьнях, народных, пераважала мягкая лірыка маладых перажываньняў, то ў рамансах артыст паказаў свой глыбокі музычны тэмпэрамант. Найбольшае ўражаньне зрабіла песьня К. Галкоўскага „Ці грэх цябе любіць“, якую артыст змушаны быў паўтарыць на неатступнае жаданьне публікі. — Ад першых слоў гэтае песьні, — расказвае Забэйда — я адчытаў на тварах сваіх асабліва маладых слухачоў: — Не, ня грэх любіць!

Па вычарпаньні праграмы публіка доўга яшчэ не пакідала салі, дамагаючыся ад артыста паўтарэньня па-над праграмай.

Акампаніяваў артысту і некаторыя нумары хору К. Галкоўскі. Гэты глыбокі і ўталентаваны музыка і кампазытар сваім мастацкім акампанімэнтам у значнай меры прычыніўся да таго, што ўся прагра-

ма канцэрту была на высокім артыстычным роўні. Напрыклад, „Лета“— музычны абразок Аладава—магло даць такое прыгожае выяўленьне толькі таму, што была поўная гармонія паміж паэтам і кампазытарам з аднаго боку і паміж салістам і акампаніятарам з другога. Ня маючы такога артыстычнага акампаніамэнту, мы ня мелі-б такога прыгожага музычнага пэйзажу летняга дня, сонечнага і звонкага, дастойнага пэндзля артысты - маляра Левітана.

Аднак самая вялікая заслуга К. Галкоўскага палягае на тым, што ён палажыў асновы нашай музыкі вакальнай (хоры, рамансы) і даў пачаткі музыкі інструмэнтальнай. Мы ўжо маем інструмэнтоўку народнай сюіты „Каханьне“ для вялікай сымфанічнай аркестры. На жаль магчымасьці нашы матарыяльныя сталі на перашкодзе да таго, каб на Вечары ў поўным блеску паказаць „Каханьне“ ў выкананьні сымфанічнай аркестры з хорам.

Палавіна праграмы вечара было запоўнена музычнымі творамі К. Галкоўскага. Ужо адно гэта гаворыць за тое, што нашы вялікія культурныя здабыткі ў галіне музыкі — ягоная заслуга. Мы цьвёрда верым, што ў наступныя гады, калі будзем абходзіць сваё Сьвята Культуры, пачуем начатую кампазытарам опэру „Сымон Музыка“.

## АБ НАС ПІШУЦЬ.

Беларускае грамадзянства можа гардзіцца сваімі дасягненьнямі на ніве культурнай. Такія імпрэзы кажды беларус праслухаў не з адных толькі патрыятычных пабудак. Тут было паказана, што мы ўжо падняліся на ровень агульна-людзкай культуры і аб нас загаварылі нашы суседзі. Збываюцца прарочыя словы Янкі Купалы:

... А суседзі глядзяць,
Дзівяцца суседзі:

— То-ж яна з мужыкоў,
А як вышла ў людзі!
Як міне больш гадкоў,
Што-ж тады ўжо будзе?!

Аб нашым сьвяткаваньні забірала голас прэса ўкраінская, літоўская, жыдоўская і расейская.

Вось ўражаньні прадстаўніка жыдоўскай журналістыкі ў газэце „Вільнэр Тог“ (16.XII 1936 году № 287), дзе даецца справаздача з вечару

„Партэр напоўніла старэйшая беларуская інтэлігэнцыя, даволі шмат маладых беларускіх ксяндзоў у чорных сутанах і госьці. З балькону, амаль з пад самае столі, ясьнеў густы шэраг льняных галоў вясковай моладзі.

Калі афіцыяльная частка, як відаць з даволі важных прычын, адбывалася як бы на палавіну адчыненым ротам, то канцэртны аддзел быў дадзены ўсім сэрцам: чаго не дагаварылі, тое дапяялі. Беларускія народныя песьні расказалі аб беларускім народзе, аб яго душы, цярпеньнях, радасьцях больш, як гэта маглі-бы сказаць найдаўжэйшыя прамовы.

Тэксты вялікіх беларускіх песьняроў Купалы, Ясакара і маладых віленскіх паэтаў М. Танка, М. Васілька, ясна гаварылі за сябе, як высака стаіць беларуская культура і літаратура.

Хор Шырмы прыемна слухаць. Чатыры дзесяткі хлапцоў і дзяўчат, кіраваныя ўмелай і чулай рукой дырыгента, вельмі добра сьпеты. Іх ціхае pianissimo разыходзіцца, як бальзам па ўсім целе. Чуецца таксама дасканаласьць і смак у выбары праграмы: прыгожыя народныя песьні і надзвычайная аранжыроўка Грэчанінава, Сьвешнікава, музыка Анцава. Хор сьпявае таксама творы віленскага мастака; з 10 нумароў харавой праграмы болей як палавіна належыць знанаму віленскаму кампазытару К. Галкоўскаму: апрацоўка беларускіх народных песьняў і музыка да тэксту віленскіх беларускіх паэтаў.

Апошнюю частку канцэрту выпаўніў саліст М. Забэйда-Суміцкі. Гэты артыст мае лірычны тэнар і так прыгожа пяяў, што публіка на руках вынясла яго на салю і доўга рабіла яму авацыі".

А вось, што пісала 18 XII 1936 г. віленская расейская прэса („Русское Слово" і „Наше Время" № 297)

„Хору Шырмы ўдалося паказаць свае артыстычныя дасягненьні і незвычайнае багацьце беларускай народнай музычнай творчасьці. Гэты хор, без сумліву, адзін з лепшых (калі не найлепшы) з віленскіх хораў. Трудна сказаць, што болей захапляе слухача, цудоўныя галасы харыстых ці зьдзіўляючая дасканальнасьць апрацоўкі, нязвычайная пранікаючая душу (пронікновенная) глыбіня трактоўкі выкананых твораў. Немагчыма сказаць, якая з песень найболей спадабалася слухачам; каждая ў выкананьні хорам была маленькім шэдэўрам.



М. Забэйда-Суміцкі.

Надта спадабаўся публіцы артыст опэры, тэнар М. Забэйда-Суміцкі. Прыгожы, мяккі і чысты голас, шляхотная, культурная манера сьпеву, — вось галоўныя дастоінствы артыста.

Шкада, што шырокая публіка надта рэдка можа знаёміцца з беларускай музыкай. Праўда, хор Шырмы калінекалі выступае ў віленскім радыё, але не ў самастойных канцэртах, а пераважна ў, так званых, „літэратурна-музычных" аўдыцыях, у каторых дырэкцыя радыё-станцыі старанна абмінае такія тэрміны, як „беларусы", „беларускі" і г. д.

А між тым, аднак віленская рад-станцыя павінна аддаваць болей увагі беларускай музыцы, чым рознага роду фокстротам ды танго. Хор Шырмы мог-бы стаць гордасьцяй віленскіх радыё-передач, для гэтага толькі трэба адмовіцца ад непатрэбнай дзівачнай палітыкі замоўчваньня істнаваньня тых меньшасьцяў, каторыя ня гледзячы на гэта ўсё-ж істнуюць".

Такую-ж прыхільную ацэну дала аб сьвяткаваньні прэса украінская і літоўская.

---

Сёлетняя спроба ўшанаваць і паказаць нашы культурныя здабыткі прайшла, як бачым, з нязвычайна вялікім пасьпехам. „Дзень Беларускай Культуры" — гэта пачатак слаўнай традыцыі на будучыню.

МІХАСЬ ВАСІЛЁК.

# А час прыдзе.

*Я. Коласу.*

Абцёр сталёвы плуг на павароце,
Сьцюдзёны вецер дзьме ў дзіравую сярмягу.
— Дазволь ты, шэрая зямліца - маці,
Я на тваіх грудзёх тут супачыць прылягу...

Пад твой выразны стогн пачну я песьню,
Пад шум глухі аеру ў гразкай смузе, —
Ня бойся, што зіма скуе цябе — зацісьне...
Вясной каліны чырваньню глянеш ярчэй у лузе

Не каюся, што я прышоў у сьвет паэтам...
Хачу глыбей адчуць нізоў працоўных гора,
Пакрыўджаных сагрэць яснейшых дзён прыветам,
на варце стаць дазорам!

Краіна родная — усьмех вясны расьцьвіўшай!
Прысягу склалі мы даўно перад табой!
Ў сям'і народаў і ты будзеш ня лішняй...
А час прыдзе, прыдзе, як майскі цьветабой!

Барозны шэрыя
Дадуць нам ураджай за ўбогія гады, —
І песьні сумныя над роднаю зямлёю,
Заменім песьняй радасьці дружынаў маладых!

Баброўня, XI 1936 г.

---

НІНА ТАРАС.

# На Новы Год.

*Натальлі Арсеньневай.*

Заігралі, заігралі
Ветры звонам, пералівам,
А сьняжынкі танцавалі
Галасіста, аж-на дзіва.

Сьвечка ў хаце дагарае,
Рукі скрэплі ад марозу.
Не бядуй, маці старая,
Сёньня сорамна ліць сьлёзы.

Спатыкаем, знай, Год Новы
Не такі, як быў учора, —
Узаром загон дзірновы,
Ускалышам песьняй гора.

Сілы шмат ў руках я маю,
А дастану мо работу,
Узмахнуся — паканаю...
Скажаш: жыць яшчэ ахвота.

За кусок з мякінай хлеба
Ласкі іх прасіць ня будзем.
Маці, плачам больш ня трэба
Надрываць старыя грудзі!

Вось паслухай: пералівам
Ветры долю напявалі,
А сьняжынкі, аж на дзіва...
Танцавалі, танцавалі.

Вільня, I.I. 1937 г.

# Культурная праца.

Усяго 30 гадоў прайшло з тэй пары, калі пачалася сьведамая, арганізаваная праца на культурнай ніве беларускага адраджэньня, калі пад саламяныя стрэхі паплылі першыя нумары беларускіх газэт „Нашай Долі“ і „Нашай Нівы“ — першае сталае друкаванае беларускае слова, слова, якое нясло прыгнечанай і нясьведамай социяльна і нацыянальна беларускай вёсцы сьведамасьць і культуру, веду і асьвету.

Але скора прышла сусьветная вайна, спыніла гэтую работу, зрыла знарадамі і акопамі беларускія землі, скалёсіла гарматамі, скарзала калючым дротам; стаптала пасевы, пажарамі сьцёрла з зямлі вёскі і мястэчкі. Пацягнуліся на чужыну, на ўсход, бежанскія абозы старых, жанчын і дзяцей... Чырвонай хваляй пераліласе рэвалюцыя... Пяць арміяў спраўляла тут сваё крывавае ігрышча..

Прышлі новыя падзелы і новыя межы. Пачалося жыцьцё нібы ізноў спакойнае, старое, але разам і як-жа новае і бурлівае. Вайна, рэвалюцыя, пробы тварыць сваё незалежнае жыцьцё—усё гэта моцна зьмяніла псыхічны твар беларускай вёскі. Усьведамленьне за гэты час пайшло шырокай баразной і паглыбілася яшчэ моцна пазьней, разам з ажыўленьнем беларускага палітычнага жыцьця.

Разам з агульнай нацыянальнай працай ішла таксама побач і праца культурна-асьветная. Ува ўсе куткі нашай бацькаўшчыны заглянула беларуская кніжка, беларуская газэта. Скрозь,—ад Палесься да Дзьвіны і вазёраў Браслаўшчыны, ад Бугу і Нарвы да гранічных стаўбоў на ўсходзе,—расла сьведамая, ахвярная беларуская інтэлігенцыя, паўстала сетка культурна-асьветных арганізацыяў. Мала асталося вёсак так, ці іначай не закранутых культурнай працай адраджэньня.

Вяла гэтую працу перадусім моладзь. І сьведама, і падсьведама, шчырым гарачым парывам маладой душы да ўсяго сьветлага і вышэйшага, кінуўся гэты перадавы авангард народу здабываць і сабе, і сваім братом нязнаныя, а так пажаданыя скарбы, як веда, асьвета і культура. Доступ да сярэдняй і вышэйшай асьветы быў для яе адцяты, і таму з тымбольшай зацятасьцю і ўпорыстасьцю найздальнейшая, найбольш вартасная часьць гэтай моладзі саматугам здабывала гэтую асьвету і дзялілася ёю з сваей вёскай. Трэба сказаць, што перадусім моладзь у нас,—як і ў кожнага іншага народу, — цягнула гужы цяжкой культурнай працы. І толькі дзякуючы таму ў так адносна скорым часе беларускія вёскі заварушыліся, зажылі прадстаўленьнямі, рэфэратамі, хорамі, біблётэкамі і чытальнямі, таму паўсталі культурна асьветныя арганізацыі.

Кожны, хто браў дзейнае ўчасьце ў гэтай шчырай рабоце, помніць, як вясковая моладзь з самаахвярнасьцю выкарыстоўвала кожную вольную ад цяжкой работы часіну, каб вытрывала сылябізаваць расьпісаныя сабе ролі да прадстаўленьня, каб вучыцца пры гэтым наагул чытаць пабеларуску. Бачылі мы, як неспакойнай і трывожнай радасьцю гарэлі вочы, калі зьбліжаўся дзень прадстаўленьня — дзень урачыстага сьвята ня толькі для сваей вёскі, але і для цэлай ваколіцы, бо зьяжджаліся людзі на гэта з-за дзесяткаў кілёмэтраў. Як скора і складна будавалася рукамі вясковых хлапцоў сцэна, прыбра-

ная пасьля найлепшымі дзявочымі саматканамі. З якой упорыстасьцю езьдзілася і хадзілася па пяць і болей разоў за адным пазваленьнем у далёкае староства. А як шчыра, жыва адклікаліся ўсе на прадстаўленьне Саля і сцэна, артысты і госьці разам перажывалі лёс герояў, — п'еса-ж была свая, родная, простая, зразумелая...

А рэфэраты, гэтае іншае сьвята, калі часам нехта прыяжджаў з далёкага гораду. З якім зацікаўленьнем усе здаецца ня слухалі, а глыталі кожнае слова,—слова аб сваей гісторыі, літаратуры, геаграфіі, то аб цікавых і дзіўных рэчах іншых нязнаных краін, аб здабычах і цудах навукі і тэхнікі, то аб сваім-жа жыцьці, аб сваіх супольных балячках, і аб тым, як іх перамагчы.

Хор паказываў красу роднай песьні, бібліётэка-чытальня давала карысны і прыемны адпачынак. Вяліся вячэрнія агульнаасьветныя курсы, пачалі будавацца народныя дамы, закладаліся коопэратывы... Проста ўвачавідкі пад вясковыя цёмныя стрэхі пачаў заглядаць дагэтуль нязнаны дзіўны госьць—*культура*.

Старыя паглядалі на ўсё са зьдзіўленьнем, часта з недаверрам. Маладыя з энтузыязмам і біскучымі ад захапленьня і радасьці вачыма.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але ў далейшых гадох на загонах і дзірванох беларускай культурна-асьветнай працы ўсё болей пачало паяўляцца равоў і выбоінаў, а ўсё меней аставалася вольных, бітых дарог.

Дайшло ў канцы-канцоў да таго, што культурна - асьветныя арганізацыі зьніклі...

І тут перад беларускай сьведамай моладзьдзю, перад вясковай інтэлігенцыяй, паўстаюць новыя пытаньні і новыя задачы, як весьці культурную працу ў новых, моцна зьмененых абставінах. Бо, што яна будзе весьціся і мусіць весьціся, гэта для кожнага ясна. Затрымацца яна ня можа і не затрымаецца — замнога ў яе ўложана сіл і ахвяр, ды такі ўжо закон гісторыі, што туга мільёнаў да роднай культуры, роднай школы, роднага друкаванага слова ня знае непераможных перашкод на дарозе да іх асягненьня.

Пры гэтым мусім сабе ўсьведаміць, што ня ўсё зьмянілася на горшае. Наадварот. Калі ходзіць аб нас самых, дык тут шмат чаго зьмянілася на лепшае. Зьвярнем тут увагу толькі на некаторыя дадатнія зьявішчы

Некалі, калі яшчэ пачыналася беларуская культурная праца наагул, — сьведамай інтэлігенцыі, каторая кідала клічы гэтай працы, была толькі жменька. І калі першыя пакаленьні беларускай вясковай моладзі, каторыя адчулі, зразумелі і падхапілі гэтыя клічы, прыступілі да праводжаньня іх у жыцьцё, — то яны ўсёжтакі ў вялікай меры былі адзінокія. Беларуская вёска, асабліва старэйшыя, маючы за сабой вякі паншчыны, нацыянальнай няволі і іх спадчыну — цемру,— хаця душой адчувала ў гэтым сьвятую праўду і сваю справу, але глядзела на ўсё часта з недаверрам. І таму першыя пакаленьні беларускай ідэйнай вясковай моладзі спатыкала часта ад сваіх-жа старэйшых незразуменьне.

Цяпер-жа гэтая справа выглядае зусім іначай. Тыя першыя пакаленьні сьведамай моладзі, гэта цяпер ужо вясковыя гаспадары, бацькі сем'яў, — гэта ўжо слой „сталых" людзей, і прытым маючых стаж культурна-асьветнай працы. Цяперашнія і будучыя пакаленьні беларускай моладзі знойдуць у іх ужо не бязьдзейных толькі сьвед-

каў, а старых дасьведчаных працаўнікоў, якія заўсёды памогуць ім і радай, і чынам. Гэта вельмі важны „саюзьнік“ для моладзі, гэта якбы сваё моцнае „заплечча“

Другое, вельмі важнае, што нам пакінулі мінулыя гады росквіту арганізаванай культурна-асьветнай працы, — гэта самыя ўспаміны гэтай працы, легенда. Вандруючы па вёсках Беларусі часта можна спаткаць на сьценах у хаце фатаграфіі гурткоў, хораў, аматарскіх груп. павятовых зьездаў... Хопіць зьвярнуць на іх увагу, пачаць пра іх гутарку, як пачынае ліцца доўгі, жывы расказ пра „гэныя“ кіпучыя часы, пра радасны творчы энтузыязм, пра перашкоды, няўдачы і пра перамогі. З ажыўленага твару, з бліскучых вачэй, відаць, што расказчык гэта глыбака перажыў, відаць што чалавек закрануты за самыя чулыя струны душы.

Успаміны такія маюць тысячы беларускіх вёсак, тысячы беларускіх хат. Паўстае тут ужо творчая легенда культурнай працы, асьветных імкненьняў і геройскага перамаганьня перашкод. Легенда, якая ў кожнага астанецца назаўсёды ў душы, якую будзе кожны расказываць сваім дзецям, моладзі. Легенда, якая ў кожным пакаленьні будзе выкрасгць новыя сілы і новую веру, якая будзе гадаваць кадры новых ахвярных і адданых беларускіх культурных працаўнікоў, якая стала будзе расьці ў капітал вялікай грамадзкай вартасьці.

Калі ўважней прыгледзімся да нашага сучаснага жыцьця, дык знойдзем многа такіх дадатніх зьявішчаў. Трудна тут іх пералічаць, трэба толькі зрабіць з усяго агульны вывад, што паколькі на горшае зьмяніліся вонкавыя магчымасьці арганізаванай культурна-асьветнай працы на вёсцы, патолькі ў нас у нутры, у самым народзе — можам сьмела гэта сказаць — яны значна павялічыліся і перарасьлі вонкавыя перашкоды. Гэта трэба мець на ўвеце падыходзячы да сучасных магчымасьцяў культурна-асьветнай працы на вёсцы.

Іншыя часы, іншыя варункі, іншы мусіць быць і падыход да яе. Трудна тут даць усестароньні разгляд, але галоўнай яе асаблівасьцю мусіць быць: паложаны спэцыяльны нацiск на *працу індывідуальную, працу адзінак*, не пакідаючы ясна і далей натугаў у кірунку тварэньня працы арганізаванай. Ходзіць аб тое, каб кожны сьведамы беларус вёў яе на кожным кроку, у кожным часе і ўсімі магчымымі ў сваіх мясцовых варунках спосабамі. Каб кожны чуўся адказным за тое, каб ягоная вёска, ягоная ваколіца, а асабліва моладзь, стала ўсьведамлялася, стала разьвівалася культурна, каб кругом расьлі і гадаваліся ня ворагі і ня чужыя людзі беларускаму народу, а каб вырасталі цьвёрдыя і моцныя працаўнікі-культурнікі. У гэтым кожнаму заўсёды будуць вельмі памоцнымі беларуская кніжка, беларускі культурны часапіс і беларуская газэта

Мы ведаем, што і гэтая праца — пашыраньне роднага друкаванага слова, асьветы і роднай культуры, праца, якая на ўсім культурным сьвеце ўважаецца за сьвяты абавязак кожнага асьвечэнага чалавека, і ў якой ніхто ня мае ніякага маральнага права перашкаджаць,—мы ведаем, што і гэтая праца ў нашых варунках спаткаецца з вялікімі і цяжкімі перашкодамі, перадусім са стараны шовіністычна і *беларусаедча* настроеных кругоў.

Ведаем, што яшчэ многія пакаленьні беларускай моладзі і старэйшай інтэлігенцыі чакае цяжкая праца, што трэба будзе яшчэ многа кінуць на гэта сіл маладых, тым больш, што фронт культурнай

працы—гэта ня фронт аднэй лініі, а фронт у плошчы: кожную вёску, кожную хату трэба будзе бараніць ад шовіністычных наступаў, скуль-бы яны ня ішлі. І тым больш трэба будзе натугаў, што побач кожны мусіць вясьці змаганьне другое — за хлеб, за самое жыцьцё. Загоны і шнуры вясковыя штораз драбнейшыя і вузейшыя...

Такім шляхам мусіць пайсьці і пойдзе праца беларускай моладзі, старэйшай інтэлігенцыі. Мы ведаем, што шлях гэты ня краскамі ўсланы, як ня краскамі быў усланы і шлях кожнага ў гісторыі народу, які мусіў сабе здабываць культуру, веду і свабоду нацыянальнага разьвіцьця. Але мы таксама ведаем, што ня было ў гісторыі здарэньня, каб гэтым, хоць і цяжкім ахвярным шляхам, нейкі народ не дайшоў раней ці пазьней да сваіх нацыянальных мэтаў.

Такі ўсюды закон гісторыі.

Згодна з такім законам пойдзе і разьвіцьцё жыцьця беларускага народу. Усякія вонкавыя перашкоды найвышэй могуць толькі часткова затармазіць яго скорасьць.

І таму трэба глядзець у будучыню пэўна і сьмела. Далейшы ход беларускай культурна-асьветнай працы на вёсцы возьме ў свае рукі новае пакаленьне ахвярнай і адданай беларускай моладзі. Яна стане на варце сваей роднай вёскі, яна сваімі натугамі і апекай атуліць беларускую вёску ад усякіх варожых наступаў.

*А. Горны.*

---

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

## Лебядзіная песьня.

Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў,
І над жоўтай іржою асін у парванай асеньняй адзежы
Горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.

Гэтак ціха й чароўна—прыгожа ў белых абоймах туманаў.
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць.
Скуль бяруць вечары гэты змрок, так густы й серабраны
І ці-ж можна у словах іх чар нязвычайны аддаць?

Але прыйдзе мой дзень і знайду я патрэбныя словы,
Словы тыя, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе
Буду ўмеці чмялямі гусьці ў раззалочаным цьвеце ліповым
І шаўковай шасьцець асакой на зялёнай бліскучай вадзе.

Усё папраўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
Усе памылкі, усе ўзьлёты зьлічу і расою рассыплю ў лагох,
Доўг жыцьцю заплачу: рэшту з добрага й рэшту з благога
Пастараюсь аддаці яму, хоць напэўна ня ўспомню ўсяго.

Раскажу аб мяцеліцах ночных, ня спаных да раньня гадзінаў,
Аб спакоі васеньніх зьмярканььняў і яснасьці сплаканых зор.

А ўсе словы злучу я у песьню прыпевам прадзіўным, адзіным.
А ўсе песьні ў адзін бесканечна магутны акорд.

Зашумяць, запяюць у акордзе зялёныя хвалі калосьсяў,
Пахінуцца зялёнай сьцяною вяршыны прадвечныя дрэў,
Туманамі заплача над жоўтымі межамі восень..
Лебядзінаю песьняю людзі ахрысьцяць мой сьпеў

---



Натальля Арсеньнева.

# Зоры.

У лагох, туманамі расшытых,
Белым стадам пасуцца таполі.
З цёмна сініх глыбінаў нябыту
Ноч зыходзіць спакойна й паволі.
Зьзяюць зоры, міргаюць вачыма,
Падымаюць густыя расьніцы,
Быццам сочаць так пільна й няўпынна,
Што за сон нам сягоньня прысьніцца.

* * *

Калі ўгледзіцца ў зоры сусьвету,
Што уночы гараць сінявокай, —
Мала быць разсьпяваным паэтам,
Нават мала натхнёным прарокам,
Кабы выліць у словы пустыя
Чар нябёсаў адвечны і сталы,
Ўсіх на сьвеце мэтафар за мала,
Усе рыфмы здаюцца — ня тыя,
Ўсе заводзяць і формы й разьмеры,
Рытм найлепшы — здаецца ніякім.
Можна толькі ў захопленьні верыць
Ясным зорам з глыбін Зодыяку.

---

МАКСІМ ТАНК.

# Нашы дарогі.

*Натальлі Арсеньневай.*

Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі.
На аднэй чуеш крок, на другой — шум трысьця...
Не спаткаліся тут між палёў, між разорамі,
не сустрэціцца ім на пяшчаным парозе жыцьця.

Будзе сонца гарэць..
Паясом слуцкім песьня Твая мо' расьцелецца,
наша-будзе чарнець, як чарнее рубцамі далонь,
там дзе вецер калосьсямі будзе шумець і мяцеліцца,
дзе на нівах бяз меж палыхнець ураджаю агонь.

Сяньня песьня Твая расьцьвіла зачарованай казкаю,
а мы казак так даўна ня чулі ў жыцьці! —
ўсё ідзём каляінай нікім не пратоптанай, гразкаю,
нам ня можна вярнуцца, а трэба наперад ісьці!

Нашу песьню няраз грызьлі голад з сухотамі,
ня было нават ранаў калі загаіць.
Станавіліся, ведай, на грудзі падкутымі ботамі
і чужынец-гандляр, а найгорш — гэта юды сваі...

І калі, сонцам новых надзей, прыглядаемся выраю,
лічым сілы жывыя і тых што ляглі:
для нас дорага слова гарачае, шчырае,
як зярнё для шчарнелых далоняў зямлі.

Любіш край за бярозы, за месяц, за восені дзіўныя,
а тым больш яго нам як, скажы, не любіць:
калі нівы і рэкі, палотны азёр пераліўныя,
калі песьні, што б'юць жывой сілай крыніц,

нам гавораць аб долі сярмяжнай аратага
і адкуль на нас хмары плывуць і плылі,
дзе ляжаць нашы сілы, надзеі віхурамі зжатыя,
колькі поту і сьлёз мае кожная грудка зямлі..

Дзіўна песьні Твае расьцьвітаюць далёка сузор'ямі,
над другімі палямі яны сіратліва мігцяць,
і таму яны, пэўна, над роднымі сяньня разорамі
асыпаюцца
золатам восені,
асыпаюцца шумам трысьця...

Вільня, 25.I 1937 г.

# Натальля Арсеньнева ў Вільні.

Не ў царкоўцы малітвай, сьвянцонай вадой,—
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як пагавія, я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васількoвых размовы.

*З зборніка „Жоўтая восень“.*

У днях 14—29 студня с. г. гасьціла ў Вільні нашая паэтка Натальля Арсеньнева. З нагоды гэтага прыезду беларуская студэнцкая моладзь — Беларускі Студэнцкі Саюз і Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце С. Б. — зладзілі 17 студзеня для паважанай Госьці аўтарскі Вечар, на якім паэтка адчытала цэлы чарод новых, яшчэ недрукаваных сваіх вершаў. Перапоўненая па берагі саля (перадусім моладзь) вельмі цёпла, воплескамі спаткала аўтарку і яе мастацкія вершы. Пры канцы вечару ад прысутнай беларускай моладзі і грамадзянства быў падараваны пясьнярцы букет жывых красак. На пачатку Вечару кароткі агульны агляд паэтыцкай творчасьці Натальлі Арсеньневай даў др. Ст. Станкевіч. Пасьля Вечару адбылося скромнае прыняцьце для паэткі — „літаратурная гарбатка“,— арганізаваная таксама студэнтамі

22 студзеня з тэй-жа нагоды адбылося ў прысутнасьці самой Госьці спэцыяльнае паседжаньне Літаратурна-Мастацкай Сэкцыі Бел. Навуковага Т-ва, прысьвечанае літаратурнай творчасьці пясьняркі На парадку дня была дыскусія ў сувязі з рэфэратам старшыні Сэкцыі д-ра Станіслава Станкевіча аб творчасьці паэткі, прачытаным на аўтарскім вечары Арсеньневай. Д-р Станкевіч паўтарыў галоўныя думкі свайго рэфэрату, у якім зазначыў усё тое новае, што выявілася ў апошніх вершах паэткі. Новае і ў форме - стылю, і ў тэматыцы. Дзеля таго, што дадзены прэлегэнтам аналіз творчасьці Арсеньневай ня выклікаў спрэчак, дыскусія перайшла на рад аснаўных праблемаў паэтыцкае творчасьці. Прамоўцы адзначылі перадусім, што стыль ня толькі ёсьць вынікам сьвядомага імкненьня паэты ў тым ці іншым кірунку, але і арганічна вяжыцца з усёй духовай істотай аўтара. Тэматыка вырабляецца абставінамі жыцьця, у якіх паэт знаходзіцца. Арсеньнева

й Танк, які гэтак сама быў на паседжаньні, прадстаўляюць два зусім розныя тэматычныя кірункі. Арсеньнева жыве здалёк ад беларускага асяродзьдзя, ня бачыць сучаснага народнага жыцьця, дык у творах сваіх выказвае пераважна свае чыста індывідуальныя настроі й перажываньні, далёкія ад справаў нацыянальна-грамадзкіх. Наадварот, Танк, які выйшаў з народнае гушчы, які жыў народным жыцьцём і разам з вёскай беларускай перажыў усе яе нягоды і крыўды, *мусіць* выяўляць тое, чым перапоўнена аж да краёў ягоная душа.

І Арсеньнева, і Танк прыймалі дзейнае ўчасьце ў гэтай цікавай, стаяўшай на высокім роўні, дыскусіі. На заканчэньне Танк прачытаў недрукаваныя яшчэ пятую, шостую і пачатак сёмае песьні сваей цудоўнэй паэмы п. н. „*Нарач*".



Натальля Арсеньнева і Максім Танк.

**Пасля дыскусіі ў Літ.-Маст. Сэкцыі Беларускага Навуковага Т-ва.**

Сваю літаратурную працу Натальля Арсеньнева пачала ў 1921 г., будучы яшчэ на школьнай лаўцы Віленскай Беларускай Гімназіі і пад уплывам часткова твораў Максіма Багдановіча і М. Гарэцкага.

Першы зборнік паэткі, *Пад сінім небам*, вышаў у 1927 г. Другі свой зборнік пясьнярка прыгатавала да друку будучы цяпер у Вільні. Мае ён звацца *Жоўтая восень.*

Галоўная крыніца паэтычнага натхненьня Арсеньневай—прырода. Лірычны верш Арсеньневай звычайна мяккі, мілагучны, сьпеўны і вельмі вобразны. Беззаганнасьць з гледзішча тэхнікі вершаваньня надае ім мастацка-стройную клясычную лінію. У апошніх вершах пясьняркі (*Жоўтая восень*) заўважываецца многа новага, каторае палягае перадусім на новай, больш сьмелай і арыгінальнай вобразнасьці. Сталы рост таленту Арсеньневай асабліва даўся вычуць у 1936 г., калі—здаецца пад уплывам агульнага ажыўленьня ў нашым

літаратурным жыцьці,—паэтка, пасьля нядоўгага перарыву, ізноў інтэнсыўна ўзялася за літаратурную творчасьць.

Ад 1923 г. пясьнярка стала пражывае далёка на чужыне (цяпер у Пазнаншчыне). Гэтая нястача бліскай сутычнасьці з беларускім жыцьцём, а з другой стараны індывідуальныя асаблівасьці таленту, тлумачаць нам, чаму ў вершах Арсеньнявай так мала безпасрэднага адбіцьця ідэяў і фактаў, творачых нашае беларускае жыцьцё. Выглядае, што пясьнярка стварыла сабе свой уласны сьвет паэтычнай уявы, у якім і жыве ў сваіх вершах

Трэба адцеміць, што нягледзячы на доўгае і сталае прабываньне паэткі на чужыне, беларуская мова ў паэзіі Арсеньневай у параўнаньні з мовай іншых нашых паэтаў,—адна з найчысьцейшых і найбагацейшых. Культ беларускага слова, дасканаленьне і тварэньне беларускай мастацкай мовы — вось адна з цэнных асаблівасьцяў творчасьці Арсеньневай.

Верым, што прабываньне ў Вільні, гэтая шырэйшая, нажаль кароткая, сутычнасьць з жывым беларускім словам і з беларускім жыцьцём наагул, і тое цёплае прыняцьце, якое тут спаткала пясьнярку, асабліва са стараны студэнцкай моладзі, і нашых маладых літаратаў,—будуць моцным імпульсам да далейшай доўгай творчай працы на ніве беларускага мастацкага слова.

---

С. ГАРОТНЫ

# Я помню вясну...

Я помню вясну... Над Краінай маей
Пышны май красаваўся наўкола,
Ў грудзёх сэрца, здавалася, білась мацней,
І глядзелі мы неяк бадзёра.

І хацелась, каб вечна была ў нас вясна,
Каб ніколі ўжо з ёй не растацца,
Людзям ў сэрца бадзёрасьць з сабой каб нясла
І адвагу за шчасьце змагацца...

Але-ж так быў кароткі той час залаты. .
Зноў над Краем віхор завывае,
Сыпе сьнегам шалёна у сьцены, платы,
З дзікім сьмехам па полі гуляе.

Абарвалася ніць вясны ласкавых сноў
І закралася ў душы трывога,
А надзею у радаснасьць будучых дзён
Замянілі адчай і зьнямога.

Ды ня гнемся, браты, мы ад сьцюжы ліхой!
Хай віхор сабе злосна рагоча, —
Мы-ж сагрэтыя думкай супольнай сьвятой
Глянем сьмела нягодам у вочы!

Верма: прыйдзе вясна, запануе йшчэ май,
Закрасуюць палі й сенажаці,
І загіне над краем туга і адчай —
Будзе доля і ў нас панаваці!

---

# Эпілёг

*да паэмы „Нарач“.*

За шыбамі тлеюць у попеле сінія зоры.
Мерзнуць ад сьцюжы апухшыя пальцы, баляць.
Ведаю, песьні, вам хочацца струнных разораў,
шолаху лесу зялёнага, шуму вазёраў, —
сьніцца няраз вам шчасьлівая наша зямля.

Будзе ўсё гэта... Сталёвым нарогам падымем
новыя дні; залатых ураджаяў зару
зьбяром у снапы матораў рукамі стальнымі,
і вёснамі будзе цьвісьці маладымі,
вясёлкамі песьняў мая Беларусь...

А сяньня ідзіце, ў народ мой ўлівайцеся?!
Хай звоніць у кроках ваш кожны акорд - пераліў!
Вы гнуцца ня ўмелі,
ня пілі з балотных крыніцаў атруты,
ня поўзалі вы і ня спалі, як хмары плылі.

А сяньня ідзіце у шэрыя хаты пад стрэхі!
Пазнаюць вас там па глыбокіх шрамох,
па чорных мазолях, па голасе рэху;
як сонечныя, загарайцеся вехі
на новых вяршынах цяжкіх перамог!

А сяньня ідзіце між родных загонаў!
Шмат вочаў знаёмых спаткаеце вы.
Засьцеляць вам нівы узорны настольнік,
як прыдзеце ў госьці ў дзень заўтрашні,
ці з славай памёршых, ці з славай жывых.

І ноч вось праходзе... За шыбамі вецер...
За сына дзесь моліцца матка цяпер...
А я хачу сонца засеяць па сьвеце
і ворагам кінуць у вочы з пад сэрца
апырсканы кроў'ю гарачаю верш!

Вось раніца ціха лягла на падлогу...
Хоць хлеба няма, але песьні бяру, —
разсею іх пэўна па родных разлогах
І заўтра на струнах — на новых дарогах
прыдзецца яшчэ апяваць Беларусь.

Вільня, 3.II. 1937 г.



# Дзьве стыхіі.

Вясной сьлязамі не засееш поля

*З паэмы „Нарач“.*

Беларуская паэзія ўзбагацілася новым монумэнтальным творам: Максім Танк закончыў сваю паэму „Нарач“.

Год таму назад прыйшоў ён у беларускую літаратуру „з сонечнай песьняй гарачай“, „з сэрцам пявучым“ і зазваніў сваімі вершамі на старонках беларускіх журналаў. Прыйшоў і заняў пачэснае мейсца ў грамадзянстве і адно з першых у нашай паэзіі. Прычына гэткага нябывалага пасьпеху крыецца ў самабытнасьці натуры паэты. Ён жыве радасьцямі свайго народу, балюча адчувае ўсе яго нягоды, абураецца, кіпіць, кліча да барацьбы за долю, кляйміць няпраўду, будзіць надзеі. Усё гэта ў Танка прадумана, абвеяна глыбокім пачуцьцём, прасякнута глыбокім энтузыязмам, сілай, энэргіяй, насычана сьвежасьцю маладых парываў, паэзіяй нязвычайнага бурлівага таленту.

Паэма „Нарач“ выяўляе дзьве стыхіі: стыхію нашай прыроды і багатую стыхію народную. Сьмелай рукой кідае паэт Нарачанскія абразы на палатно паэмы, паказвае, як цесна зжыліся гэтыя дзьве стыхіі, якія дзеюць разам і адна другую дапаўняюць. Сюжэт паэмы — барацьба сялян-рыбакоў за вазёры. Стыхія прыроды і стыхія народная — гэта галоўныя героі паэмы.

Энэргія і разнастайнасьць вершаваньня, багатыя і новыя ў нашай паэзіі вобразы і звароты Танкавай мовы, як найлепей адпавядаюць багатым вобразам народнага жыцьця, спакойнага і ўсхваляванага, і нязвычайным малюнкам нашае прыроды.

Паэта закаханы ў сваёй Нарачанскай стыхіі.

Люблю твае Нарач затокі і тоні,
Як вецер сівыя туманы развесіць,
ці пена срабрыста на хвалях зазвоніць,
цалуючы зоры, калышучы месяц.

Люблю, калі ў сонцы гарыш пазалотай,
раскінуўшы сівія хваляў палотны,
ці шэрымі днямі сумуеш маркотна
з рыбацкаю песьняй, з зялёным чаротам.

Люблю твае буры, твае навальніцы,
ў іх чую, як ў песьнях, жыцьцё маладое..
І хочацца блізка грудзьмі прытуліцца
да чорных ад гневу магучых прыбояў.

Чытаючы паэму і мы разам з паэтам любім гэтае хараство прыроды, адчуваем яго, бачым перад сабою, бо яно залівае нашу істоту сваім звонам.

Сьмяецца вечар спозьнены
звавочкам пад дугой,
і сыплюць зоры зорныя
густы пчаліны рой.

Часта адным словам, адным кінутым зваротам мовы дае паэт цэлыя мастацкія абразы. Слухаючы сялянскую гутарку, дзе між іншым пра сенажаць кінута адна фраза: „Выгрызла сонцам засуха", — мы ўжо ня толькі прадстаўляем спаленыя сенажаці, але яшчэ да таго і адчуваем, што гэта нясе для селяніна новыя нягоды і бяду. Максім Танк, як паэт „З Божае ласкі", скупы на словы, якімі не раскідаецца дарэмна.

Сыпнуў на плечы худыя загонаў
поўнымі жменямі дождж.

Але гэтыя поўныя жмені спозьненага дожджу сялянскай бядзе мала памогуць. Паэт не *даказвае*, а паказвае, што жыцьцё сялянскае на „худых плечах загонаў" патрабуе направы, радыкальнай зьмены.

Характэрнай адзнакай творчасьці Максіма Танка заўсёды ёсьць сьветлая вера ў лепшае заўтра, надзея на свае сілы і сілы свайго народу. Яго муза ня знае плаксівых тонаў, пустых скаргаў, сьлязьлівасьці, бязраднага суму над сваей і народнай доляй. У самым тоне яго паэзіі, у найцяжэйшыя хвіліны жыцьця для паэта і для яго герояў знаходзяцца цьвердыя неперамoжныя тоны, нязломная вера ў тых магутных акордах, якія паэт кідае і ў нашае сэрца сваею мужнай маладою рукой.

Ён любіць раніцу на прадвесьні, вясну — сымбаль нашага адраджэньня, — бо за імі сьледам ідзе вясёлы дзень, звонкае лета ў поўным росквіце красы і сонца. Праўда часам і на прадвесьні злуецца зіма, гурбіцца сьнег, але

ў далі чарнеюць бярозы далёка
і родныя стрэхі сяла.

І пад гэтыя стрэхі ён пасылае свае песьні сказаць, што

Есьць у жыцьці нашым зрэбным і стоптаным
шмат яшчэ ясных надзей.

Чытаючы паэму „Нарач" мы любуемся ня толькі яе мастацтвам, але разам і працэсам артыстычнага росту самага паэта, любуемся, як распускаўся і расцьвітаў у прыгожую кветку ягоны талент. І то на працягу толькі аднаго году. Апошнія часткі паэмы — шостая і сёмая — здаецца найбагацейшыя мастацкія пэрлы ў паэзіі М. Танка.

Тут абедзьве стыхіі найпаўней праяўляюць сваю веліч і сілу.

---

Ноч. Рыбакі - сяляне на начлезе вядуць гутарку аб сваіх справах і бядзе. Гутарку папярэджвае такі абраз у паэме.

Гарыць агонь· Спакойна дрэмець Нарач.
І ноч, як песьня ціхая бяз слоў,
на сонны бераг навявае чары,
калыша хмары-думы рыбакоў.

Часамі з поля падкрадзецца вецер,
рукамі згорне золата з агню
і, разсяваючы, вясе здаецца
загонам зорным поўную сяўню.

Часамі хваля падпаўзе пужліва,
як быццам думае аб чымсь спытаць,
а можа казку з сініх пераліваў
арцелі, нівам хоча расказаць.

Пяску набраўшы ў сінія далоні
вярнецца берагам пакатым зноў.
Грызуць мурог папутаныя ковi,
дзе-не-дзе звон сарвецца з капытоў.

А ў гэты час Грышка і хворы Прахор ідуць на сваю Нарач. На раніцу падыйшлі на бераг. Грышка пайшоў акольнымі дарогамі на вёску. Прахор адзін любуецца сваею Нарачай. Апошні раз. Ідзе у ваду абмыцца. На пяшчаны бераг набягае хваля, дастае да грудзей, абымае пенай за шыю. Прахор траціць прытомнасьць:

Братцы, братцы, разам на бераг!
Разам цягніце, братцы, арцель!

Усё глыбей ідзе і глыбей. Невад цяжкі, хвалі валам налятаюць. На дне за дрот калючы ад вайны сусьветнай зачапіліся ногі. Апошняе,— Братцы, памажэце!—і Нарач навекі прыняла свайго рыбака, „падняла, ускалыхнула, як маці калыскай".

А ў гэты час была цудоўная раніца ў роднай вёсцы.

.. Я пайду і мо на росах
ды па сьцежках адгалосаў,
эх, далонямі зьбяру
залацістую зару.

Пералескі, нівы пейце!
Дзень іграе на жалейцы,
і на сінім трысьніку
і на залатым ражку.

Зрэбны пояс туга, туга,
бяры ў рукі пугу, пугу!
Нарачанскі сіні край,
гэй, на паству выганяй!

Так пастух на трубе „пералівае зару". Вёска ажыла, рыхтуецца да працы,

Вымыўся дзень у расе,
выцер яго ручніком
вецер пахучы ад сена і сьвежы.

Але Нарач кліча: — На бераг!.. Аддае назад Прахора. У дадатак да ўсіх бедаў нарачанскіх

лягло цяжкае восень-гора,
лягло на плечы рыбакоў,
на межы, на палосы, на вазёры.

І тут рыбакі зразумелі, што падняць гэтае гора змогуць толькі шырокія плечы, „лес рук мазольных".

Вёска прыйшла на хаўтуры. Жонка галосіць над мужам, выпраўляючы на вечны супачынак.

А ў якую ж ты дарожаньку,
адыходзіш ад нас родненькі?

А куды-ж ты па сьвяточнаму,
сівы голуб, выбіраешся?

Аднэй сьцежкай цябе выправім,
ды адкуль скажы спаткаць цябе?
Ці ад берагу вазёрнага?
Можа ў полі з поля чыстага?

Можа летам летнім вечарам,
як зары цьвет асыпаецца?
Мо' вясной, калі зязюленька
закукуе ціхай раніцай?

Аднаму трудна ізжыць такое гора, што „вочы, хату і Нарач перарасло". Але вёска, арцель не забудзе свайго брата, не дасьць пакрыўдзіць сямью яго. І паплыла труна на плечах народу праз выган. Навальніца дажджом абмыла сьвежы курган і рыбацкае гора. Рыбакі сваё гора самі грудзьмі затрымалі, і зноў, як раней, у тонях

топяцца сеткі
ў жывое азёр серабро.

Хаця-ж паэма ў цэласьці ня ёсьць яшчэ поўнасьпелы твор і мы думаем, што некалі яшчэ рука паэта пройдзе па яе старонках, але ў апошніх частках паэмы Максім Танк ужо падняўся да самых вышынь сапраўднай паэзіі. Тут ужо можна сьмела сказаць, што сама прырода нясла і падавала паэту матар'ялы, калі ён тварыў сваю паэму. Ад народу-ж нашага навучыўся ён браць „кудлатыя", сакавітыя мэтафары, якім здаецца так цесна, што яны зьвісаюць і асыпаюцца па-за рамы паэмы. Дзеючыя асобы на фоне прыроды і масы народнай выпаўняюць ролю солістаў музычнага аркестравага масыву. А ў цэласьці сваёй паэма „Нарач" гэта пробны акорд, пачаткі вялікай сымфоніі, ўзятыя юнацкай рукою вялікага музыкі. *Г. Ш.*

---

С. ХМАРА.

## У Паходзе.

Засаколіў вецер
вышэй стрэхі хатаў,

Зашумела вецьце
пра долю аратых.

Дарогай шырокай
пад шопат лазовы

Ідзе цяжкім крокам
паход наш лапцёвы.

Зашумела вецьце...
хмары чоўнам б'юцца.

Лозы, быццам дзеці,
за палу бяруцца.

Ой ты, доля, доля,
палыновы цьвеце!

Ці-ж то нам ніколі
сонца не засьвеціць?!

Слонім. 8 XII. 1936 г.

# 100 гадоў пасьля сьмерці Пушкіна.

Сёлета 11 лютага мінула 100 гадоў з дня сьмерці геніяльнага расейскага паэта А. С. Пушкіна.

Дня 10 лютага 1937 г. польскія літараты ў Вільні абходзілі гэты юбілей Пушкіна, прысьвяціўшы яму „Літаратурную Сераду“. У напоўненай па берагі салі рэфэраты аб творчасьці Пушкіна і яго значэньні для сусьветнае літаратуры чыталі проф. К. Гурскі, проф. М. Зьдзехоўскі і паэт Т. Буйніцкі. Пасьля рэфэратаў былі дэклямаваны артыстамі віленскага мястовага польскага тэатру творы Пушкіна ў арыгінале і ў польскім перакладзе.

11-га лютага расейскае грамадзянства у Вільні таксама ушанавала памяць свайго нацыянальнага паэта урачыстай акадэміяй-канцэртам.

Ува ўсім культурным сьвеце адбыліся урачыстыя акадэміі на чэсьць „поэта-всечеловека“ з удзелам выдатных прадстаўнікоў навукі, літаратуры і мастацтва.

У савецкім Саюзе сьвята Пушкіна абходзілася нязвычайна урачыста з шырокім дзяржаўным размахам. Творы Пушкіна, перакладзеныя на іншыя мовы народаў Саюзу, у тым ліку і на беларускую, выдаюцца ў мільёнах экзэмпляраў.

У наступным нумары „Б. Л.“ будуць зьмешчаны артыкулы аб жыцьці і творчасьці Вялікага Паэта і пераклады на беларускую мову некаторых ягоных вершаў.

---

# Над сьвежай магілай...

Яшчэ адна балючая страта...

Бязлітасная сьмерць неспадзявана забрала ад нас лепшага сына нашае Бацькаўшчыны, які сваей працаю ў беларускім адраджэнскім і грамадзкім руху заслужыў вялікую пашану і сымпатыю сярод беларускага грамадзянства ня толькі Сьвіслачы і яе ваколіц.

Вестка аб сьмерці гр. Астапчыка адбілася глыбокім жалем у сэрцах усіх тых, хто знаў аб Ім і Ягоных заслугах для Беларускага Народу.

Мацей Астапчык радзіўся ў 1902 годзе ў м. Сьвіслачы, Ваўкавыскага павету ў небагатай сям'і мешчаніна-земляроба. Пачаткавую адукацыю атрымаў у Расеі падчас эвакуацыі, вучачыся некалькі гадоў у сярэдняй школе. Далейшае разьвіцьцё здабываў самаадукацыяй, чытаньнем кніг...

Пасьля павароту з „бежанства“ чуткае сэрца Астапчыка ня можа пагадзіцца з цяжкім становішчам беларускае вёкі. Ён шукае шляхоў да палепшаньня сялянскага жыцьця. Ад 1926 году працуе, як здольны і энэргічны працоўнік на культурнай ніве. Арганізуе і закладае культурна - прасьветныя гурткі, сам працуе як загадчык бібліятэкі-чытальні пры Сьвіслацкім гуртку, даводзіць бібліятэку да такога высокага роўня, што яна ўзапраўды робіцца паважным куль-

турным цэнтрам самаадукацыі сялянскай моладзі далёкіх акалічных вёсак. Дзякуючы вялікім здольнасьцям нябошчыка, як кіраўніка драматычнае сэкцыі, тэатральныя выступленьні гэтае сэкцыі карысталіся нябывалым пасьпехам і сымпатыяй сярод жыдоўскага і польскага працоўнага грамадзянства, ня кажучы ўжо аб беларускім. Калі у 1928 годзе была утворана ў Сьвіслачы Акружная Управа ТБШ, Ён працуе на пачатку, як сэкрэтар, а потым, як Старшыня гэтае Управы. У тым-жа часе быў ініцыятарам залажэньня ў м-ку Сьвіслачы профсаюзу работнікаў - гарбароў, які з часам стаўся моцнай работніцкай пляцоўкай. У 1929 годзе шмат укладае ахвярнае працы і энэргіі пры арганізацыі і залажэньні Беларускага Спажывецкага Коопэратыву „Праца“ у Сьвіслачы.



Мацей Астапчык.

У канцы восені мінулага году, маючы ўжо надломленае здароўе, Ён захварэў на запаленьне сьляпой кішкі. І вось 17 сьнежня мінулага году — на трэці дзень пасьля опэрацыі — Мацей Астапчык памёр у Беластоку, дзе і пахаваны.

Няхай-жа будзе лёгкай яму родная зямелька!

Сябра.

---

# З прэсы.

Некалькі гадоў таму нейкі Гіртых (Giertych) напісаў кніжку „O program polityki kresowej“, у якой „сумленна“ і „дакладна“ распрацаваў „спосабы“ вынарадаўленьня беларусоў і ўкраінцаў, так дакладна, як, немяркуючы, у кухарскай кніжцы падаецца спосаб прыгатаваньня нейкіх катлетаў: добра пасячы, сяго-таго прымяшаць, дабавіць цыбулькі, пасыпаць сольлю, крыху перчыку, крыху імберчыку, усё гэта падсмажыць, ну, і пасьле астаецца толькі зьесьці..

Што справа з гэтым не так простая, пробуе сёлета даказаць п. Гіртыху А. Каміньскі ў часапісе старэйшых віленскіх скаўтаў „Naprzełaj“ (Вільня, 15-І-1937 г. № 1). На цьверджаньне п. Гіртыха, што нацыянальныя імкненьні беларусаў і ўкраінцаў, гэта толькі „праца жменькі інтэлігентаў“ кажа:

„Прыпомніце сабе, як у 1863 г. угаварывалі нам, што тагачаснае паўстаньне, ня было паўстаньнем народу — але паўстаньнем жменькі інтэлігенцыі (калі-б апёрціся на вашым слоўніку, трэба было-б сказаць, што была гэта работа т. зв. „польскай партыі", жменькі сэпаратыстаў, нямаючая нічога супольнага з палітычнымі імкненьнямі цэлага народу). Прыпомніце сабе, як угаварывалі, што гэтае паўстаньне было работай чужых агентураў, за чужыя грошы. Прыпомніце, як стараліся нашай бацькаўшчыне прычапіць шыльд Прывісьлінскага Краю".

Ужываньне „моцных" спосабаў пры вынарадаўляньні, якія радзіць п. Гіртых, паводле Камінскага, даводзіць да таго, што

„кожны арышт — гэта новы мучанік, кожная рэпрэсія — гэта новая тэма да геройскай легенды, кожная акцыя — гэта прычына да рэакцыі. А ўсё разам — гэта ня толькі ўзмоцніваньне нацыянальнай сьведамасьці — але пышная школа палітычнага салідарызму для ўціsканага народу".

І ня толькі дзеля гэтага спосаб гэты не надаецца:

„... калі-б мы гвалтам адбіралі іншым народам іхнюю мову, калі-б мы адбіралі якому колечы народу права называцца народам, калі-б мы тармазілі культурнае і грамадзкае разьвіцьцё якога-колечы народу,— мы правільна заслужылі-б назоў народу, каторы нічога не навучыўся ў сваей гістарычнай прошласьці..."

Так піша А. Каміньскі... *V.*

---

# Наша хроніка.

*** СЯРОД ПАЭТАЎ і ПІСЬМЕНЬНІКАЎ. Ня гледзячы на нашыя цяжкія абставіны, беларускае літэратурнае жыцьцё усьцяж разьвіваецца і ўзбагачваецца. Наш паэтыцкі маладняк праяўляе што раз большую плоднасьць і размах у творчай працы. Гэтак *Максім Танк* дня 3.ІІ с. г. закончыў сваю вялікую паэму „Нарач", якая размахам творчага таленту і артыстычнай вышынёй бязумоўна займае адно з першых месцаў у беларускай літаратуры. Цяперака паэт выканчывае адно большае прозаічнае апавяданьне і прыгатаўляе да друку другі новы зборнік вершаў (першы „На этапах" канфіскаваны) і працуе над сюжэтам новай паэмы з сялянскага жыцьця.

*Натальля Арсеньнева*, будучы нядаўна ў Вільні (12—28.І 37), прыгатавала да друку новы зборнік сваіх высака мастацкіх вершаў пад наз. „Жоўтая восень", пераважна напісаных у 1936 г., а цяпер працуе над паэмай з цыклю „Зачараваны кут", у якім мае выкарыстаць беларускія купальскія абрады, а так-жа народнае павер'е аб баб'ім леце. Апрача гэтага прыгатаўляе да друку зроблены ёй некалькі год назад пераклад на беларускую мову ІІ часткі „Дзядоў" Адама Міцкевіча.

*Міхась Машара* прыгатаваў ужо да друку новы, ужо чацьверты зборнік сваіх вершаў п.н. „З пад стрэх саламяных", які хутка мае выйсьці з друку.

Таксама прыгатаваў да друку новы зборнік вершаў і *Міхась Васілёк.*

*Хведар Ільляшэвіч* нядаўна выдаў трэці зборнічак сваіх вер-

шаў п. н „Захварбаваныя вершы“, а цяпер працуе над раманам з жыцьця беларускае вёскі і мястэчка п. н. „Туман“, якога том першы ўжо закончаны. Апрача гэтага пляную паэт выдаць асобным зборнікам свае апавяданьні.

Наймалодшая, але многа абяцаючая паэтка *Ніна Тарас*, апрача дробных вершаў, працуе цяпер над даўжэйшай паэмай. *А. Бярозка* пляную таксама прыгатаваць да друку першы зборнік сваіх вершаў.

Як бачым, на літаратурнай ніве разьвіваецца ажыўлены рух, нажаль, толькі нашая матар'яльная галіта не дазваляе рэгулярна выдаваць усе лепшыя літаратурныя навінкі. Павінны аб гэтым паруліцца шырэйшыя кругі беларускага грамадзянства і прыйсьці з матар'альнай помаччу для нашых маладых паэтаў і пісьменьнікаў.

⁂ НОВЫЯ ПЕСЬНІ. Наш кампазытар К. Галкоўскі апрацаваў на мяшаны хор чатыры новыя беларускія народныя песьні: „Там пад гаем зеляненькім“, „Ой, маці, маці“, „Пайшла дзеўка ў лес за грыбамі“, і „Ой, чумача, чумача“. Апрацоўка папулярная, даступная для невялікіх хораў, як заўсёды ў Галкоўскага, багатая і цікавая з боку музычнага. Мэлёдыі і тэксты гэтых песьняў запісаў Г. Шырма ў в.в. Шакуны і Кацёлкі, Пружанскага павету.

⁂ „ШУМ БАРАВЫ“, зборнік вершаў Міхася Васілька, выданы яшчэ ў 1929 годзе, цяпер канфіскаваны.

⁂ „БЕЛАРУСКАЯ КРЫНІЦА“ зноў будзе выходзіць. 27 лютага Віленскі Гарадзкі Суд зьняў канфіскату з № 48-га „Б. Крыніцы“ за 1936 год і скасаваў пастанову, на падставе якой газэта была спынена.

⁂ „БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ“— аднаднёўка, выданая ў Вільні селянінам Язэпам Ярмалковічам — канфіскавана па загаду Гарадзкога Старасты.

⁂ РАЗЬВЯЗАНЬНЕ ТБШ і ІНСТ.БЕЛ.ГАСП. і К-РЫ.—Віленскі ваявода выдаў пастанову, на падставе якой разьвязаны ТБШ і БІГіК. Цэнтральныя Урады гэтых арганізацыяў, уважаючы пастанову Ваяводы няслушнай, злажылі скаргі Міністру Ўнутраных Спраў.

— Віленскі Ваявода адхіліў рэкурс Галоўнай Управы ТБШ на пастанову Віленскага Гарадзкога Старасты, які ня прыняў да ведама Агульнага Сходу ТБШ з дня 5.VII 1936 г., і зацьвердзіў пастанову Старасты. Галоўная Управа справу скіравала ў Адміністрацыйны Трыбунал у Варшаву.

⁂ З СТУДЭНЦКАГА ЖЫЦЬЦЯ. Пасьля даўжэйшага перарыву, з прычыны эндэцкіх антыжыдоўскіх забурэньняў, у канцы студзеня ізноў пачаліся заняткі на Віленскім Унівэрсытэце. Разам з гэтым распачаў сваю працу і Беларускі Студэнцкі Саюз. Апрача Вечару прысьвечанага Н. Арсеньневай — аб чым пішам у іншым мейсцы, адбыліся ўжо ў БСС два рэфэраты: П. Засіма аб палажэньні беларускага сялянства ў XIX ст. і В. Папуцэвіча аб Казімеры Шафнаглі.

— 6.II.37 адбылася ладжаная супольна з Студэнцкімі Саюзамі Украінцаў і Ліцьвіноў VIII Гадавая Вечарына.

— Працу Саюзу ў вялікай меры тармозіць тое, што часьць папераў БСС, забрана адміністрацыйнымі ўладамі пры рэвізіі ў канцы лістапада с. г., і да гэтай пары яшчэ ня зьвернена. З тэй-жа прычыны тымчасам ня можа адбыцца Агульны Гадавы Сход БСС.

— З беларусаў сёлета кончылі мэдыцынскі факультэт і злажылі 15 лютага лекарскую прысягу Натальля Чудучанка, Вітаўт Тумаш і Віктар Войтэнка. Маладым абсальвэнтам жадаем пасьпеху ў далейшай працы, і каб найболей карысьці прынясьлі нашаму народу.

— 4 сакавіка Студэнцкія Саюзы Беларускі і Ўкраінскі ладзяць супольна Канцэрт Беларуска-Украінскай Песьні.

*** БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ. У Францыі ёсьць больш 35 тысяч беларускіх эмігрантаў работнікаў. Да леташняга году ня было там сваей беларускай арганізацыі і беларусы былі расьцярушаныя ў розных польскіх, украінскіх ды расейскіх арганізацыях. Але летась паўстала нарэшце свая арганізацыя: *Хаўрус Беларускіх Работнікаў у Францыі*, цэнтраля якога знаходзіцца ў Парыжы. Арганізацыя мае характар культурна-асьветны; мэта яе—сарганізаваць усіх беларускіх работнікаў у Францыі у вадну магутную арганізацыю, каб гэтым самым перастаў наканец беларускі работнік туляцца па чужых, а часта і варожых яму арганізацыях. Арганізацыя мае права закладаць свае філіі—аддзелы па ўсей тэрыторыі Францыі. У гэтым годзе ў Цэнтралі (Генэральнай Радзе) прыбыло новых актыўных сіл, і *Хаўрус* пачынае шырокую арганізацыйную і культурна-асьветную працу.

У Парыжы вядуцца ўжо рэгулярныя курсы, мэта якіх: падгатаваць працаўнікоў для беларускай вёскі — коопэратараў, вучыцялёў і наагул арганізатараў. Курсамі кіруе с. Мікола Абрамчык. Дасюль адбываліся лекцыі з курсу: матэматыкі, гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры і эканомікі Беларусі.

Цяпер распачаўся курс коопэрацыі і агульна эканамічных ды палітычных навук. Сябры, пражываючыя на правінцыі, атрымліваюць лекцыі корэспондэнцыйным спосабам. Сярод лектароў ёсьць спэцыяліст электротэхнікі і аўтамабіляў; адзін інжынер-аграном, адзін інжынер эканаміст і адзін абсольвэнт гуманістычных навук.

Гэнэральная Рада *Хаўрусу* мае ўжо сваю ўласную салю, у якой 31 сьнежня 1936 г. адбылася беларуская вечарына — спатканьне Новага Году. Была паказана ўкладзеная курсантамі сцэнка *Стары і Новы Год* і камічны абразок на экране (фільм) *У дохтара*. Была таксама багатая вокальная часьць вечару: гр. К. Баяр артыстычна прадэклямавала вершы Купалы і Коласа; гр. Ясіновіч прыгожа выканала салёвыя нумары сьпеву новай кампазыцыі К. Галкоўскага і іншыя беларускія рамансы. Але найбольшую сымпатыю ўсіх заваявала 8-гадовая Люся Баяр, як за прыгожую беларускую дэклямацыю, так і за цэлы рад выкананых дзіцячых танцаў.

На вясну Драматычны Гурток пры Парыскай Філіі *Хаўрусу* прыгатаўляе вялікі баль-спэктакль. Мэта спэктаклю — паказаць шырокаму грамадзянству Парыжа красу беларускай тэатральнай штукі і песьні.

*Братом у Францыі пасылаем нашыя шчырыя брацкія прывітаньні і пажаданьні пасьпеху ў распачатай так вялікай працы!*

Рэдактар - Выдавец: Ф СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.

# ВЫЛЯЦЕЛА ГАЛКА.

*(Народная з в. Шакуны, Пружанскага павету).*

Гарм. К. ГАЛКОЎСКАГА.

гал – – ка з зя – лё – – на – – га
ўпа – – ла на вы – со – – ку

Andantino.

Вы – ле – цела гал – – – – – – – – ка з зя-лё-на- -га гай- -
Ой ля – цела ўпа – – – – – – – – ла на вы-со- -ку сос- -

Ой з гай – – – – – – – – – –
на сос – – – – – – – – – –

ка, Вы-ле-цела дру – – – га з зя-лё-на-га лу – – –
ну, Вятрэц па-вя-ва – – – е са-сон-ку хі-ста – – –

– ка.
– ну,

га.
е.

Вя – трэц па – вя – ва – – – – – – – е са – – –

Вя – – – – – – – – – – – – – – трэц хі – – –

сон – ку хі – ста – – – е, А чор на – я гал – – – – ка сці – –

ста













Выляцела галка з зялёнага гайка,
Выляцела друга з зялёнага луга.

Ой ляцела ўпала на высоку сосну,
Вятрэц павявае сасонку хістае

Вятрэц павявае сасонку хістае,
А чорная галка сціха прамаўляе:

— Ой, лужа мой, лужа ня шумі так дужа,
Не задавай жалю, бо я ў чужым краю.

